


# Рэгіянальная газета. Rh.by

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2017

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета».

1 лістапада 2019 года №44 (1279)

18+





# У Вілейцы гарадскія аўтобусы змянілі маршрут

## Не ўсе пасажыры ў курсе. Чытачы скардзяцца



Білеты на вакзале прадаюць з аўтобуса. Але гарадскія аўтобусы на вакзал не заходзяць

старонка 2

Фота Міхася КУЛЯША.

## Андрэй Рагінскі. Тарзэр

старонка 21

## Песні як яны ёсць

Рэцэнзія на канцэрт Ігара Палынскага з нагоды 10-годдзя гурта Sumarok

старонка 7

## Каму ў рэгіёне абяцаюць тысячу рублёў заробку

старонка 3

## Порт Нью-Ёрка адкрыў архіў імігрантаў

Гісторыя чытача «РГ», які знайшоў сваякоў

старонка 18

## Як вучылася дзятва ў Гарадку ў два мінулыя стагоддзі

старонка 17

ISSN 1991–7155



Адсканіруйце QR-код, каб перайсці на наш сайт http://rh.by/



## Беларусы просяць зрабіць 31 снежня выхадным

Сёлета ў кастрычніку Савет Міністраў зацвердзіў графік пераносу рабочых дзён у 2020 годзе.

31 снежня 2019 года не з'яўляецца выхадным. Беларусы на сайце petitions.by размясцілі петыцыю, дзе звяртаюцца да ўрада з просьбай зрабіць 31 снежня, а таксама 1 і 2 студзеня выхаднымі ў 2019-2020 і ў наступныя гады.

**На іх думку, змены станоўча адаб'юцца на адпачынку беларусаў, а таксама на эканамічным і палітычным жыцці.**

Пакуль петыцыю падпісалі каля васьмі тысяч чалавек.

**Паводле petitions.by.**

## Як працуюць альтэрнатыўныя крыніцы энергіі ў рэгіёне

ВІЛЕЙКА
МЯДЗЕЛ

Ясныя дні ў кастрычніку дазвалялі сонечным электрастанцыям працаваць на поўную магутнасць.

**У Вілейскім раёне, каля Ілы, фотамодулі актыўна паглынаюць святло і даюць дадатковыя кілаваты электрычнасці.**

Усяго на станцыі знаходзіцца 12 энергаблокаў. Кожны з іх уключае ў сябе амаль тры тысячы сонечных панэляў, якія працуюць кожны дзень 24 на 7. Вынік – амаль 600 кВт * г электраэнергіі.

У летні перыяд сонечная станцыя забяспечвае электрычнасцю на 100% дзіцячы рэабілітацыйны цэнтр «Надзея». Сонечныя ўстаноўкі ёсць і на тэрыторыі самога цэнтра – у фармацэўтычным вытворчасці... 

Кампактныя модулі для выпрацоўкі цеплавой энергіі ўстаноўлены на даху тэхнічных памяшканняў.

Яшчэ адна крыніца аднаўляльнай энергіі – вецер. Яго выкарыстоўваюць на раўніннай мясцовасці ў Мядзельскім раёне. Там працуе ветрапарк.

Адзін генератар з лопасцямі, у залежнасці ад тэхнічных характарыстык, здольны выпрацаваць ад 250 да 1000 кВт * г.

**Паводле Мінаблвыканкама.**

## Мядзел атрымаў больш за 38 тысяч рублёў

МЯДЗЕЛ

Сёлета Мядзел прызналі адным з лепшых гарадоў краіны па санітарным стане і добраўпарадкаванні. Пераможцаў выбіралі ў пяці катэгорыях. Мядзелу прысвоілі тытул «лепшы па санітарным стане і добраўпарадкаванні сярод гарадоў і гарадскіх пасёлкаў з насельніцтвам да 10 тысяч жыхароў».

**Узнагародай сталі пераходны вымпел, пасведчанне і грашовая прэмія – паўтары тысячы базавых велічынь, ці 38 250 рублёў.**

Частка прэміі пайшла на заахвочванне работнікаў прадпрыемстваў, арганізацый і ўстаноў раёна, якія дасягнулі найлепшых вынікаў у працы па добраўпарадкаванні, азеляненні і санітарнай ачыстцы Мядзела.

А гэта – дванаццаць чалавек з камунгаса, столькі ж са сферы адукацыі, па шэсць з тэрытарыяльнага цэнтра сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва, цэнтральнай раённай бальніцы, цэнтра гігіены і эпідэміялогіі, пяць з раённай ветстанцыі, а таксама з ПМС, аўтапарка, вузла электрасувязі, прадстаўніцтва Белдзяржстраха, гасцінічнага комплексу «Мядзел», філіяла «Мінаблпаліва», райспажыўтаварыства, магазіна «Еўраопт» і іншыя.

**70% сумы накіравалі на набыццё малых архітэктурных форм для горада. У двары дома па вуліцы Школьнай з'явіўся новы гульнявы комплекс. Таксама набылі ўказальнікі вуліц, сметніцы і лаўкі.**

Некаторыя аб'екты ўжо ўстанавілі, некаторыя з'явяцца на вуліцах горада ў бліжэйшы час.

**Аддзел інфармацыі.**

# «Паставілі прыпынак, павесілі расклад»

## З-за рамонту вакзала ў Вілейцы змяніўся рух гарадскіх аўтобусаў

ВІЛЕЙКА

**У Вілейцы рамантуюць аўтавакзал. Таму некаторыя аўтобусы змянілі свой маршрут. Гэта выклікае пэўныя нязручнасці, бо пра змены, як аказалася, ведаюць не ўсе пасажыры.**




Фота pilakbus.ru.

У сувязі з рамонтам білеты на вакзале прадаюць з аўтобуса. Але гарадскія аўтобусы на вакзал не заходзяць.

### Чакаюць доўга і дарма

Вось што нам расказаў адзін з чытачоў-вілейчукоў, які звярнуўся ў рэдакцыю:

– Днямі ехаў у Воўкаўшчыну не на аўтамабілі, як звычайна, а на гарадскім аўтобусе. Кіроўца прыпынкаў не аб'яўляе. Адразу пасля плошчы Свабоды паехаў па Стаханаўскай, без павароту на вуліцу Шубіна. І тут адна жанчына кажа, што ёй трэба на вакзал. Выйшла яна на першым часовым прыпынку на Стаханаўскай. Аказалася, выходзіць ёй трэба было на наступным прыпынку. Магчыма, і спазнілася. Пасажыры пачалі ўзрушацца. Высветлілася, што госці горада знаходзяцца яшчэ ў горшым стане. Яны прыязджаюць у Вілейку чыгункай і па звычцы ідуць на прыпынак ля аўтавакзала. І доўга, і дарма чакаюць транспарт, бо ніякай аб'явы паблізу няма.

### На Стаханаўскую – без заезду на вакзал

Мы звярнуліся ў аўтапарк з просьбай пракаментаваць сітуацыю. Там адказалі, што ў сувязі з рамонтам маршрут аўтобусаў сапраўды змяніўся. Цяпер аўтобусы №№1 і 4 на вакзал не заязджаюць, ідуць на Стаханаўскую. Па словах спецыялістаў, там паставілі прыпынак і павесілі расклад.

Калі вакзал адрамантуюць, аўтобусы пойдуць па ранейшых маршрутах.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

# У пераможцах конкурсу даследчых прац – вучні з рэгіёна

МАЛАДЗЕЧНА
ВІЛЕЙКА
ВАЛОЖЫН
МЯДЗЕЛ

26 кастрычніка зладзілі 22 конкурс даследчых прац для вучняў Міншчыны. У пераможцах ёсць вучні з нашага рэгіёна.

### Маладзечаншчына

**Уладзіслаў Семяняка,** вучань 8 класа гімназіі-каледжа з Маладзечна – дыплом другой ступені ў секцыі «Біялогія».

**Вікторыя Паўлоўская,** вучаніца 10 класа Турэц-Баярскай сярэдняй школы – дыплом першай ступені ў секцыі «Геаграфія 21 стагоддзя: Погляд юнага даследчыка».

**Аліна Кучко,** вучаніца 6 класа Красненскай сярэдняй школы – дыплом трэцяй ступені ў секцыі «Натуральнанавуковыя дысцыпліны»

**Максім Сянько,** вучань 9 класа, **Аліна Гурэцкая,** вучаніца 8 класа Гарадоцкага вучэбна-педагагічнага комплексу дзіцячы сад–базавая школа – дыплом другой ступені ў секцыі «Гісторыя і краязнаўства»

**Канстанцін Папоў,** вучань 9 класа гімназіі-каледжа – дыплом другой ступені ў секцыі «Лінгвістыка»

**Сабрына Тонкавіч,** вучаніца 7 класа сярэдняй школы №14 – дыплом першай ступені ў секцыі «Філалогія»

**Марыя Новік,** вучаніца Выверскага ВПК, дыплом трэцяй ступені ў секцыі «Філалогія»

**Лізавета Палуха,** вучаніца 8 класа Лебедзеўскай школы, узнагароджаная спецыяльным прызам у секцыі «Гісторыя – культурная спадчына і сучаснасць»

### Вілейшчына

**Бажэна Шалкоўская,** вучаніца 7 класа, **Кацярына Манчак,** вучаніца 6 класа вілейскай гімназіі №2 – дыплом другой ступені ў секцыі «Працоўнае навучанне»

### Валожыншчына

**Герман Каланцэр,** вучань 11 класа гімназіі №1 – дыплом другой ступені ў секцыі «Біялогія»

**Аляксандр Савіцкі,** вучань 5 класа Івянецкай сярэдняй школы – дыплом другой ступені ў секцыі «Гісторыя. Краязнаўства»

**Марыя Жамоздзік,** вучаніца 7 класа гімназіі №1 – дыплом трэцяй ступені ў секцыі «Працоўнае навучанне»

**Мікіта Князеў,** вучань 10 класа гімназіі №1 – дыплом трэцяй ступені ў секцыі «Хімія»

**Арцём Раманчык, Максім Машчонак,** вучні 11 класа Пугачоўскага ВПК – дыплом другой ступені ў секцыі «Чалавек і сучаснае грамадства»

### Мядзельшчына

**Ягор Шыкавец,** вучань 10 класа Нарачанскай школы №2 – дыплом трэцяй ступені ў секцыі «Геаграфія 21 стагоддзя: Погляд юнага даследчыка»

**Ганна Астрэліна, Арцём Філіповіч, Ганна Бабровіч,** вучні 9 класа Нарачанскай школы №2 – дыплом першай ступені ў секцыі «Гісторыя. Культурная спадчына і сучаснасць»

**Ілона Кур'яновіч,** вучаніца 10 класа Сырмежскага ВПК – дыплом другой ступені ў секцыі «Гісторыя. Культурная спадчына і сучаснасць».

**Аддзел інфармацыі.**

# Ад тысячы – намесніку дырэктара і начальніку аддзела выканкама

## Якія вакансіі і заробкі прапануюць у рэгіёне

МАЛАДЗЕЧНА
ВІЛЕЙКА
МЯДЗЕЛ
ВАЛОЖЫН

**Якую працу і заробкі прапаноўвалі ў рэгіёне на сайце Дзяржаўнай службы занятасці ў апошні тыдзень?**


Фота perm.vet.firmika.ru.

Ветэрынарнаму доктару абяцаюць амаль столькі ж, колькі начальніку аддзела райвыканкама.

### Маладзечна: Найбольш – ветэрынарнаму доктару

Традыцыйна найбольш вакансій у Маладзечне. За апошні тыдзень на сайце размясцілі больш за 130 прапаноў. У аддзел культуры райвыканкама шукаюць электраманцёра. Заробак – ад 330. Столькі ж прапануюць прыбіральшчыку, апальшчыку (истопнику) і машыністу сцэны, якія прыйдуць у Цэнтралізаваную клубную сістэму. Мастацкаму кіраўніку ў гэтай жа ўстанове – ад 368. Сюды шукаюць рэжысёра і дырэктараў клубаў з вышэйшай адукацыяй у Маркава і Турэц-Баяры, заробак у межах 350 рублёў.

На БелТІЗ патрэбныя аператар кацельні, электрагазазваршчык, слесар-рамонтнік, падсобнік, электраманцёр. Заробкі ад 330 да 500. Шукаюць супрацоўнікаў у дзіцячы цэнтр «Расток» – загадчыкаў аддзелаў, метадыстаў, кіраўніка студыі. Усім – ад 330. У патрабаваннях – вышэйшая адукацыя.

У гаспадарку «Хажова-агра» возьмуць жывёлавода, ветэрынарнага доктара, токара, галоўнага бухгалтара, трактарыста-машыніста. Найбольшы заробак абяцаюць бухгалтару – ад 800. Астатнім – у межах 500.

Наступная арганізацыя – «Вялес-Міт». Сюды возьмуць ветэрынарнага доктара, прыбіральшчыка, мыйшчыка, грузчыка, слесара, рабочага, зборшчыка сыравіны. Заробкі – ад 560 да 700. А ветэрынарнаму доктару абяцаюць ад 900.

У адзін з садкоў шукаюць дворніка і памочніка выхавальніка на няпоўную занятасць. Заробак аднолькавы – ад 350. Выхавальніку прапануюць ад 450, дэфектолагу – ад 500, повару ў садку – ад 350, прыбіральшчыцы ў школе – ад 330.

На паўстаўкі ў дом-інтэрнат возьмуць доктара з заробкам ад 408. А найвышэйшы заробак з усіх прапанаваных будзе таму, хто пойдзе працаваць галоўным ветэрынарным доктарам у гаспадарку «Заскавічы».

### Вілейка: шукаюць дырэктара ў Ільянскі каледж

За апошні тыдзень вакансій па Вілейшчыне – крыху больш за 30. Самыя высокааплатныя прапановы – намеснік дырэктара па медыцынскай працы ў ДРАЦ «Надзея» за тысячу рублёў і начальнік аддзела архітэктуры і будаўніцтва Вілейскага райвыканкама – ад 1026 рублёў. У абодвух выпадках – абавязковая вышэйшая адукацыя, у першым – досвед на працы на кіруючай пасадзе не менш за тры гады. У «Надзею» патрэбны яшчэ і выхавальнік. Заробак – ад 500.

Ёсць вакансіі ў вілейскім аўтапарку: інжынер, кіроўцы аўтамабіляў, маляр. Заробкі – ад 500 да 700. Ад 330 заплацяць прыбіральшчыцы ў гімназіі, ад 350 – у КУП «Садружнасць». Сюды ж шукаюць пекара на паўстаўкі і прадаўца. Заробак – ад 450. Грузчыку прапануюць на сто рублёў менш.

Шукаюць дырэктара ў Ільянскі аграрны каледж. Заробак – ад 345 рублёў.

### Дактары – на Мядзельшчыну

На Мядзельшчыне патрэбныя медыкі. Ёсць дзевяць вольных месцаў для дактароў у Мядзельскай ЦРБ. Заробак – ад 540 да 620. Фельчар атрымае ад 420 рублёў, медсястра – ад 340, памочнік доктара – ад 665. У санаторый «Нарачанка» запрашаюць санітарку – ад 340 рублёў, медсястру – ад 500, інструктара па фізкультуры – ад 600.

**З іншых прафесій – повар у школу – ад 330, педагог-псіхолаг туды – амаль за столькі ж.**

### У Валожыне вакансій найменш

За апошні тыдзень для Валожыншчыны на сайце з'явіліся чатыры вакансіі. Гэта загрузчык сыравіны на мясцовы льнокамбінат. Заробак ад 800. Аператар сувязі на пошту – ад 216. Сакратар у цэнтр творчасці і апальшчык у Валожынскую райаграэхніку. Сакратару прапануюць ад 350, апальшчыку – на 50 рублёў больш.

**Падрыхтавала Аксана ЯРАШОНАК.**

# Калі ва ўласнасці дзве і больш кватэр

**У такім выпадку ўласнікі вызваляюцца ад падатку на нерухомасць на адну кватэру, калі яна належыць на праве ўласнасці.**

Калі ва ўласнасці дзве кватэры і больш, можна выбраць, якую з іх пазбавіць падатку. Для гэтага трэба напісаць у інспекцыю Міністэрства па падатках і зборах паведамленне. У ім пазначыць месцазнаходжанне ўсіх кватэр, якія вам належаць. А таксама кватэру, да якой хочаце прымяніць ільготу па падатку.

Калі гэтага не зрабіць, ад падатку вызваляць кватэру, набытую ва ўласнасць раней за іншыя. Паведамленне можна накіраваць у любую падатковую інспекцыю незалежна ад месца жыхарства.

Шматдзетныя сем'і цалкам вызваляюцца ад падатку на ўсе кватэры, якія належаць на праве ўласнасці.

Інфармацыя аб парадку налічэння, тэрмінах выплаты падатку на нерухомасць грамадзянамі, што маюць дзве і больш кватэр, а таксама адміністрацыйная адказнасць за нявыплату падатку размешчаная на сайце rh.by.

**Інспекцыя па падатках і зборах па Маладзечанскім раёне.**

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 24.10 | 31.10 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 2.0400 | **2.0544** |
| Еўра | 2.2689 | **2.2840** |
| Злоты, 10 | 5.3005 | **5.3530** |
| Расійскі рубель, 100 | 3.1985 | **3.2188** |
| Грыўня, 100 | 8.1637 | **8.2179** |
| Курсы ў «Банку БелВЭБ» | 23.10 | 30.10 |
| Еўра | 2.2500/2.2750 | **2.2600/2.2880** |
| Долар ЗША | 2.0300/2.0480 | **2.0480/2.0630** |

| ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна) | | |
|---|---|---|
| ПРАДУКТЫ | 23.10 | 30.10 |
| | Цана, руб. | |
| Кілбаса «Мядовая», 1 кг | 19,80 | **19,33** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 3,95 | **3,90** |
| Сасіскі «Малочныя», 1 кг | 7,37 | **7,58** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 9,50 | **9,50** |
| Карп жывы, 1 кг | 4,95 | **4,95** |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 5,80 | **5,80** |
| Селядзец, 1 кг | 5,50 | **5,50** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 15,60 | **15,60** |
| Грэчка, 0,8 кг | 1,45 | **1,45** |
| Рыс, 0,8 кг | 1,85 | **1,85** |
| Алей, 1 л | 3,00 | **3,00** |
| Кава «Nescafe», 100 г | 4,80 | **4,80** |
| Маянэз, 400 г | 2,20 | **2,20** |
| Соус «Мінскі», 0,5 л | 1,40 | **1,40** |
| Шпроты, бляшанка, 160 г | 1,80 | **1,80** |
| Яйкі курыныя, 1 дз. | 1,70 | **1,70** |
| Агуркі, 1 кг | 2,90 | **2,80** |
| Баклажаны, 1 кг | 2,50 | **1,80** |
| Бульба, 1 кг | 0,50 | **0,50** |
| Буракі, 1 кг | 0,60 | **0,60** |
| Кабачок, 1 кг | 1,00 | **1,00** |
| Капуста, 1 кг | 0,50 | **0,50** |
| Морква, 1 кг | 0,70 | **0,60** |
| Памідоры, 1 кг | 2,50 | **3,00** |
| Перац, 1 кг | 2,50 | **2,50** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 0,90 | **0,90** |
| Часнок, 1 кг | 5,50 | **5,50** |
| Шампіньёны, 1 кг | 5,50 | **5,50** |
| Апельсіны, 1 кг | 3,90 | **3,90** |
| Бананы, 1 кг | 3,20 | **3,10** |
| Вінаград, 1 кг | 2,70 | **2,90** |
| Гранат, 1 кг | 4,50 | **4,50** |
| Грушы, 1 кг | 2,80 | **2,80** |
| Дыня, 1 кг | 2,50 | **2,50** |
| Журавіны, 1 л | 4,00 | **3,50** |
| Кавун, 1 кг | 1,20 | **1,20** |
| Лімон, 1 кг | – | **4,60** |
| Мандарыны, 1 кг | 4,90 | **6,00** |
| Хурма, 1 кг | 4,80 | **4,30** |
| Яблыкі, 1 кг | 1,60 | **1,60** |
| СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ | | |
| Малако, 1,5 л | 1,50 | **1,50** |
| Масла, 1 кг | 15,00 | **15,00** |
| Сала, 1 кг | 12,50 | **12,50** |
| Сыр, 1 кг | 13,00 | **13,00** |
| Тварог, 1 кг | 7,50 | **7,50** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 3,00 | **3,00** |

## Зламыснікі скралі з рахунка прадпрыемства каля сарака тысяч рублёў

МАЛАДЗЕЧНА

Супрацоўнікі Маладзечанскага РАУС праводзяць праверку па факце крадзяжу грошай з банкаўскага рахунка мясцовай фірмы, якая займаецца вытворчасцю вокнаў ПВХ, паведаміла афіцыйны прадстаўнік Маладзечанскага РАУС **Юлія Крук**.

Пра інцыдэнт у міліцыю паведаміў 39-гадовы дырэктар гэтага прадпрыемства. Па словах мужчыны, шкода склала 39 830 беларускіх рублёў.

Падчас праверкі праваахоўнікі ўстанавілі, што з дапамогай сістэмы «Кліент-банк» ажыццявілі восем грашовых пераводаў. Больш за чатыры тысячы рублёў сышлі на рахункі бізнес-партнёраў, астатнія грошы ў памеры каля 36 тысяч перавялі на адрасы «лжывых банкаўскіх рахункаў» невядомых асоб.

Як высветлілася, на службовым камп'ютары не была ўсталяваная антывірусная абарона. Па наяўнай інфармацыі, адбылося заражэнне ПК, што дазволіла зламыснікам атрымаць доступ да аддаленага кіравання камп'ютарам і сакрэтнай інфармацыі.

У такіх выпадках факт заражэння шкоднасным праграмным забеспячэннем карыстальнік можа не заўважыць. Злавіўшы момант, калі ключ электроннага лічбавага подпісу падлучаны да камп'ютара, ашуканцы афармілі аплатныя даручэнні на спісанне сродкаў, падпісалі іх электронным лічбавым подпісам і накіравалі на выкананне ў банк.

У Маладзечанскім раёне ўжо зафіксаваныя тры выпадкі крадзяжу грошай з рахункаў арганізацый розных формаў уласнасці.

Супрацоўнікі групы па раскрыцці злачынстваў у сферы высокіх тэхналогій Маладзечанскага РАУС настойліва рэкамендуюць усталяваць на службовы камп'ютар антывірусныя праграмнае забеспячэнне.

Для таго каб мець бяспеку дыстанцыйных плацяжоў і банкаўскіх аперацый, уключыць функцыю «Абарона банкаўскай аплаты». Акрамя таго, не варта адкрываць электронныя лісты ад невядомых адпраўнікоў, лепш за ўсё наладзіць спам-фільтр. Калі ў атрыманых паведамленнях не пазначана тэма ці змест, а толькі прымацаваны ўкладанні або спасылкі, то, верагодна, гэта шкодная вірус.

У выпадку, калі на камп'ютары ўсталявана сістэма дыстанцыйнага банкаўскага абслугоўвання (інтэрнэт-банкінг, кліент-банк), падключаць да ПК носьбіт з ключом электроннага лічбавага подпісу неабходна выключна ў момант падпісання дакументаў, калі патрабуецца правесці аплату. У астатніх выпадках, USB-прылада павінна знаходзіцца ў недаступным месцы для старонніх людзей.

**Аддзел інфармацыі.**

## У грамадзянкі В'етнама з карткі скралі грошы

МАЛАДЗЕЧНА

19-гадовая грамадзянка В'етнама, жыхарка Мінска, стала чарговай ахвярай махляроў.

Дзяўчына ў сацсетцы паведаміла свайму 20-гадоваму знаёмаму рэквізіты банкаўскай аплатнай карты, а таксама неабходныя коды для доступу і пацвярджэння аперацый.

Аднак замест залічэння грашовых сродкаў зламыснікі з карт-рахунка скралі 18 тысяч расійскіх рублёў. Аб спісанні грошай дзяўчына даведалася з sms-паведамленняў на тэлефоне.

У гэтыя дні дзяўчына прыехала ў госці да сваякоў у Маладзечна, распавялі ў прэс-службе Маладзечанскага РАУС. Усвядоміўшы, што рэквізіты карткі патрапілі ў чужыя рукі, яна неадкладна звярнулася ў раённы аддзел міліцыі. Супрацоўнікі групы па раскрыцці злачынстваў у сферы высокіх тэхналогій Маладзечанскага РАУС правялі праверку.

Высветлілася, што ўліковы запіс маладога чалавека, з якім дзяўчына перапісвалася ў сацсетцы і падзялілася канфідэнцыйнай інфармацыяй, узламалі.

Паводле яго слоў, паведамленні з просьбай даць рэквізіты банкаўскіх карт былі разасланыя некалькім карыстальнікам са спісу сяброў.

Адразу высветліць тых, хто меў дачыненне да крадзяжу грошай, не ўяўляецца магчымым. Геаграфія месцазнаходжання IP-адрасоў зламыснікаў шырокая – ад Расіі да Індыі.

Распачалі крымінальную справу.

Міліцыя настойліва рэкамендуе заставацца пільнымі і не спяшацца даваць персанальныя дадзеныя. Лепш асабіста звязацца з людзьмі, якія звяртаюцца з такімі прапановамі. Калі вы западозрылі суразмоўцу ў ашуканскіх дзеяннях, неабходна неадкладна звярнуцца ў праваахоўныя органы. Акрамя таго, перадаваць канфідэнцыйную інфармацыю банкаўскіх плацежных картаў трэцім асобам забаронена.

**Аддзел інфармацыі.**



Фота з сайта Следчага камітэта.

Аўтамабіль, які трапіў у смяротнае ДТЗ.

# Пасажыр загінуў, кіроўца збег

АСТРАВЕЦ

**По дадзеных следства, 27 кастрычніка каля пяці раніцы паблізу Астраўца па аўтамабільнай дарозе Р-48 Варона-Ашмяны-Юрацішкі-Іўе ехаў 39-гадовы мужчына на легкавым аўтамабілі.**

Ён не справіўся з кіраваннем і з'ехаў у кювет, дзе аўтамабіль перакуліўся. У момант ДТЗ у аўтамабілі таксама знаходзіўся 31-гадовы знаёмы кіроўцы. Ад атрыманых траўмаў ён памёр на месцы здарэння.

Аўтамабіль перакуліўся на прамой дарозе: п'яны кіроўца не пацярпеў, а пасажыр загінуў

Устаноўлена, што абодва мужчыны знаходзіліся ў стане алкагольнага ап'янення. Перад паездкай яны ў кампаніі агульных знаёмых ужывалі алкаголь. Па выніках агляду ў кіроўцы ўтрыманне алкаголю склала 1,37 праміле. З месца ДТЗ 39-гадовы мужчына ўцёк, аднак у хуткім часе яго затрымалі супрацоўнікі міліцыі.

Астравецкі раённы аддзел Следчага камітэта ў дачыненні да кіроўцы ўзбудзіў крымінальную справу па ч. 4 арт. 317 Крымінальнага кодэкса (Парушэнне правілаў дарожнага руху асобай, якая кіравала транспартным сродкам у стане алкагольнага ап'янення, што пацягнула па неасцярожнасці смерць чалавека).

Падазраваны дапытаны, з яго ўдзелам правялі праверку паказанняў на месцы. Следчыя агледзелі месца здарэння, прызначылі шэраг экспертыз, у тым ліку судова-медыцынскую і аўтатэхнічную. Вывучаецца асоба падазронага, устанаўліваецца прычыны і ўмовы, якія спрыялі здзяйсненню злачынства.

Следчыя звяртаюцца да грамадзян, якія сталі сведкамі і відавочцамі дадзенага ДТЗ, з просьбай паведаміць пра гэта ў аператыўна-дзяжурную службу УСК па Гродзенскай вобласці па тэлефоне **(8-0152) 724040** (кругласутачна).

**Паводле Следчага камітэта.**

## З інтэрната знік дзіцячы трохколавы ровар

МАЛАДЗЕЧНА

У міліцыю Маладзечна звярнулася 34-гадовая мясцовая жыхарка. Жанчына паведаміла, што ад 17 да 24 верасня пры нявысветленых абставінах знік дзіцячы трохколавы ровар.

Ровар – з рамай чорна-чырвонага колеру, дахам-капюшонам і ручкай. Ён стаяў у памяшканні для захоўвання калясак і ровараў у інтэрнаце па вуліцы Галіцкага 12-а.

Матэрыяльныя страты гараджанка ацаніла ў 120 рублёў.

Цяпер праваахоўнікі высвятляюць, як знік ровар. У сувязі з гэтым просяць грамадзян, якія валодаюць якой-небудзь інфармацыяй пра месцазнаходжанне ровара альбо бачылі яго, звярнуцца па тэлефонах: **(8 033) 320-60-70, (8 0176) 77-16-56** у Маладзечанскае РАУС альбо на адрас: **Маладзечна, вуліца Галіцкага, 23.**

**Аддзел інфармацыі.**

## Заявіў пра ўгон машыны, а пратаколы склалі на яго самога

ВІЛЕЙКА

21 кастрычніка ў вёсцы Карпавічы тры прыяцелі адзначалі дзень народзінаў былой жонкі аднаго з іх.

Калі выпілі, вырашылі пакатацца на машыне па ваколіцах. Пасля вярнуліся і працягнулі святкаваць.

Калі гаспадар машыны заснуў, двое мужчын узялі яго машыну і зноў паехалі катацца. Гаспадар машыны прачнуўся, убачыў, што аўтамабіля няма на месцы, і выклікаў міліцыю.

Міліцыянеры і ўгоншчыкі прыехалі амаль адначасова.

– Гаспадар машыны ўжо не меў прэтэнзій да прыяцеляў і, відаць, пашкадаваў, што выклікаў міліцыю. Бо пратаколы склалі на яго самога за тое, што ездзіў нецвярозы, без правоў і без тэхагляду, – расказала карэспандэнту намеснік начальніка Вілейскага РАУС **Кацярына Млечка**.

Па яе словах, спецыялісты дадуць прававую ацэнку дзеянням двух іншых фігурантаў і высветляць, ці лічыць гэта здарэнне ўгонам.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Дзяржнагляд знайшоў 315 парушэнняў на аб'ектах у Смаргоні да «Дажынак»

СМАРГОНЬ

Абласны фестываль-кірмаш «Дажынкі» праводзяць у Смаргоні 23 лістапада. Ужо практычна завершаныя работы па аздабленні фасадаў будынкаў, выконваецца добраўпарадкаванне асноўных вуліц горада.

Інспекцыя дзяржбуднагляду ажыццяўляе маніторынг аб'ектаў будаўніцтва, праводзіць выбарачныя праверкі.

За час падрыхтоўкі горада да свята праведзена 28 аглядаў і 2 маніторынгі, выдадзены 28 прадпісанняў і 2 рэкамендацыі на ліквідацыю выяўленых парушэнняў патрабаванняў нарматыўных прававых актаў пры будаўніцтве, рэканструкцыі, капітальным рамонце аб'ектаў.

Усяго на аб'ектах выяўлена 315 парушэнняў, некаторыя з іх – паўторна.

На тых кіраўнікоў, хто рэагаваў недастаткова аператыўна альбо ігнараваў выдадзеныя прадпісанні, вынесена пяць пастаноў і адзін пратакол аб адміністрацыйных правапарушэннях на агульную суму 879,75 рубля.

**Паводле shliah.by.**


Вольга Партных.


Віктар Кулевіч.


Алена Пою.

# Мы нашым вучням – і за маму, і за тату

## Настаўнікі санаторнай школы-інтэрната расказалі пра сваю працу

**У санаторнай школе-інтэрнаце, што ў Маладзечне, вучацца і лечаць скаліёз дзеці з усёй Міншчыны. Прыязджаюць сюды на вучэбную чвэрць або на паўгоддзе, а потым едуць да бацькоў. Як працуецца педагогам у такіх умовах?**

МАЛАДЗЕЧНА

### Вольга Партных: настаўніца – лепшая праца для жанчыны

Вольга Віктараўна выкладае ў трэцім класе. У настаўніцтве – 22 гады. Прафесію абрала гледзячы на дзядулю і бабулю – алёхнавіцкіх настаўнікаў **Ганну** і **Яраслава Касцюкоў**.

– Калі я прыязджала ў Алёхнавічы да бабулі з дзядулем, да мяне ўсе людзі ставіліся так, нібыта я ўнучка крутых бізнесменаў, – прыгадвае суразмоўца. – Бабуля выкладала матэматыку, дзядуля – беларускую мову і літаратуру, нейкі час быў дырэктарам школы. Ён працаваў з пасляваеннымі вучнямі, якія часам былі старэйшымі за настаўніка. Многія людзі з Алёхнавічаў прайшлі праз рукі маіх бабулі і дзядулі.

Натхнёная прыкладам родных, Вольга скончыла спачатку педагагічны каледж, потым – Беларускі дзяржаўны універсітэт. Працаваць пачынала ў маладзечанскай школе №9. Прыйшла 19-гадовая настаўніца ў клас, а там – 32 вучні. Але час той згадваць прыемна. Былі блізкія адносіны з бацькамі вучняў. І ў санаторнай школе Вольга Віктараўна трымае сувязь з бацькамі цяперашніх вучняў, нягледзячы на тое, што яны ў большасці знаходзяцца далёка.

Настаўніцкую працу Вольга лічыць найлепшай для жанчыны і пералічвае шматлікія плюсы:

– Ты пастаянна адчуваеш павагу да сябе з боку вучняў і іх бацькоў, чуеш словы падзякі за сваю працу. Як жанчыне, мне прыемна прыходзіць у прыгожай сукенцы ва ўтульны клас.

> **Педагагічныя і псіхалагічныя навыкі спатрэбяцца ва ўласнай сям'і. А вучні ў школе ўздымуць настрой і нават супакояць, калі з імі падзелішся сваёй праблемай.**

### Алена Пою: працаваць настаўнікам фізічнай культуры марыла з чацвертага класа

Ад 1991 года Алена Анатольеўна працуе па спецыяльнасці, пра якую марыла з дзяцінства. У чацвертым класе дзяўчынка напісала сачыненне, што хоча быць настаўнікам фізкультуры. Па гэтай спецыяльнасці і скончыла інстытут. Сёння яна – настаўнік фізічнай рэабілітацыі.

– Мама бачыла мяне бухгалтарам. Сама яна працавала майстрам у цэху з рабочымі і заўсёды зайздросціла бухгалтарам, што сядзяць у чыстых кабінетах. Я скончыла бухгалтарскія курсы і год папрацавала па гэтай спецыяльнасці. Зразумела, што гэта не маё, і пайшла ў фізкультурны інстытут.

Педагог працуе з дзецьмі ад трэцяга да восьмага класа. Кажа, сучасныя вучні адрозніваюцца ад ранейшых. Яны больш разняволеныя, але ўсё ж адказна падыходзяць да заняткаў фізічнай рэабілітацыі, разумеюць іх важнасць для ўмацавання свайго здароўя. Працаваць з імі цікава і раней, і цяпер.

Трэцякласнікі – непасрэдныя, актыўныя. Нават дыхальную гімнастыку навучыліся рабіць весела. З імі педагог праводзіць больш гульнявых практыкаванняў. У дзяцей развіваецца спрыт, каардынацыя рухаў.

З вучнямі восьмага класа працуюць над сілавой падрыхтоўкай. Яны больш адказныя. Усведамляюць, навошта ім патрэбныя заняткі, правільна выконваюць фізічныя практыкаванні.

...«Мая мама робіць людзей прыгожымі» – так некалі напісала аб прафесіі Алены Анатольеўны ў школьным сачыненні яе дачка.

### Віктар Кулевіч: за адным засцілаю ложак, другога суцяшаю

Віктар Вітальевіч працуе ў школе выхавальнікам. Ён з дзецьмі тады, калі няма ўрокаў. У залежнасці ад змены падымае іх раніцай або кладзе спаць увечары.

Па прафесіі ён – настаўнік музыкі. У дзяцінстве самастойна асвоіў баян. Пасля было музычнае вучылішча і педінстытут. У педагогіцы – каля сарака гадоў.

Спрабаваў змяніць працу – пайшоў у прыватную фірму. Але надакучыла аднастайнасць, таму зноў вярнуўся да дзяцей. У санаторнай школе-інтэрнаце працуе выхавальнікам каля 15 гадоў.

> **Асноўная яго задача – адаптаваць дзяцей да новых умоў, навучыць іх на пэўны час заставацца без бацькоў.**

– Працаваў з рознымі класамі. З дарослымі дзецьмі трошкі прасцей. Яны ўсё ведаюць і разумеюць. За малодшымі школьнікамі трэба больш нагляду: прыбраць за імі, заслаць ложак, суцешыць, калі засумавалі без бацькоў, – дзеліцца выхавальнік. – А яшчэ малодшыя – больш непасрэдныя, не хаваюць эмоцый.

**Аксана ЯРАШОНАК.**
**Фота аўтара.**
УНП 600128662

## «Па Вілейшчыне з «Логас-тур»

### Турыстычны праект гімназіі «Логас» увайшоў у тройку лепшых у Беларусі

**23-24 кастрычніка ў Нацыянальным цэнтры мастацкай творчасці дзяцей і моладзі правялі заключны этап рэспубліканскага конкурсу на лепшы праект па арганізацыі шостага школьнага дня. У тройку лідараў увайшоў праект гімназіі «Логас».**

ВІЛЕЙКА

Дыплом трэцяй ступені ад Міністэрства адукацыі ў намінацыі «Мая вялікая малая Радзіма» калектыў атрымаў за праект «Па Вілейшчыне з «Логас-тур». Стваральнікі праекта – педагог-арганізатар гімназіі **Аксана Максімовіч** і настаўніца беларускай мовы і літаратуры **Надзея Чално.**

> **Як распавялі стваральнікі праекта, у гімназіі існуе турыстычная кампанія.**

Яна складаецца з вучняў 9-11 класаў. Для малодшых дзяцей, гімназістаў 5-8 класаў, кампанія праводзіць экскурсіі па Вілейцы і Вілейшчыне.

Экскурсіі могуць быць двухдзённымі і аднадзённымі, пешымі і на транспарце. Ёсць некалькі маршрутаў. Вось некаторыя з іх.

**Па Вілейцы:**

- Мемарыяльны комплекс «Памяці зніклых вёсак»
- Вілейскае вадасховішча з наведваннем магілы абаронцы Вілейкі Міхаіла Львіцына
- Вуліцы нашага горада

**Па Вілейшчыне:**

- Вілейскія Хатыні – Любча, Боркі, Брыгідава, Старынкі
- Першая сусветная вайна
- Вілія і яе берагі

Старшакласнікі ў турыстычнай кампаніі маюць свае функцыі.

> **Адны працуюць як гіды, іншыя шукаюць цікавыя гістарычныя звесткі пра Вілейку і Вілейшчыну.**

Ёсць журналісты, якія пішуць пра паходы і экскурсіі ў СМІ, рэкламныя агенты, якія ствараюць буклеты.

На абласным этапе каманда гімназіі заняла першае месца.

> **На заключным этапе, дзе ўзялі бронзу, вучні і настаўнікі творча прадстаўлялі праект.**

У дзесяціхвілінным выступленні былі нават песні і танцы. Праект прадстаўлялі настаўнікі Аксана Максімовіч і **Алена Балуш**, а таксама вучні **Мілана Градзюшка, Валерыя Руткоўская, Іван Чычын, Настасся Узгорак, Соф'я Сопрых, Ягор Вайцяхоўскі, Кірыл Лапацкі, Паліна Сыракваш.**

**Аксана ЯРАШОНАК.**

Рэгіянальная газета.

* Аб’явы, пазначаныя зорачкай, змешчаныя ў інтэрнэце на сайце Rh.by

**Дзе падаць аб’яву**

МАЛАДЗЕЧНА — Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518. Тэл. 8 (0176) **53-78-04**, 8 (029) **676-84-20.**
АСТРАВЕЦ — вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. 8 (01591) **2-11-40.**
АШМЯНЫ — вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. 8 (01593) **7-56-17.**
ВАЛОЖЫН — вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. 8 (01772) **6-13-85.**
ВІЛЕЙКА — вул. Партызанская, 44, магазін «Парус». Тэл. 8 (01771) **2-00-83, 2-01-03;** вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. 8 (01771) **5-52-33, 5-55-39.**
МЯДЗЕЛ — вул. 17 Верасня, 2. Тэл. 8 (01797) **5-52-66, 5-57-65.**
СМАРГОНЬ — вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. 8 (01592) **3-30-77,** 8 (01592) **4-47-16** (з 1 лістапада 2019 г.)


## ВІНШАВАНКА

**Настассі УТКІНАЙ з Маладзечна**

Віншуем нашу Настачку з цудоўным днём нараджэння. У такім узросце – каханне, вясна, азарт. Жадаем табе здароўя, радасці ў вачах, усмешак, гармоніі.

*Жадаем, каб шчасце табе*
*ўсміхалася,*
*А мара любая*
*аднойчы здзяйснялася.*
*Удача і радасць,*
*і добры настрой*
*Хай крочаць заўсёды з табой!*

**Калегі з «Рэгіянальнай газеты».**

## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

• ЗАЗ «Таўрыя» ў добрым стане. Цана дагаворная. Машына знаходзіцца па тэл. (8-033) 3548646.

• Опель-Зафіра, 2000 г.в., аб’ём 1,8 бензін, у добрым стане. Т. (8-029) 8721624.*

• Шаўрале-Матыз у выдатным стане. Т. (8-029) 9139773.

• Гума зімовая Ханкок 205/55 R16 б/у, пратэктар 7 мм, 240 рублёў. Вілейка. Т. (8-029) 2745357.

• Задні мост ад ЗІЛ-157, укарочаны, з новай гумай. 300 руб., торг. Т. (8-029) 5492191.*

• **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО:** крылы, капоты, парогі, рам. устаўкі арак, глушыцелі, бамперы, падкрылкі і шмат іншага. ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, (8-0176) 707810.*

### КУПЛЮ

• **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-029) 1477209.***

• Аўто! Іншамарку! У любым стане. Т. (8-029) і (8-044) 7769900.*

• Любое аўто на хаду для сябе. Грошы адразу. Т. (8-029) 7555455, (8-029) 1563334.*

## НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

• 1-пакаёвая кватэра ў Вілейцы. Т. (8-029) 6405133.*

• 1-пакаёвая кватэра ў Турэц-Баярах, вул. Цэнтральная, дом 6; 35,5 кв. м. Т. (8-0330 6690759.

• 2-пакаёвая светлая кватэра ў Маладзечне з рамонтам і мэбляй у выдатным раёне, 51,1/28,5; 8,8; 6/9. Т. (8-029) 3997088.*

• 3-пакаёвая кватэра ў цэнтры. Т. (8-029) 5692836.

• Гараж у ГБК-2, Вілейка, нядорага. Т. МТС (8-033) 6611354.*

• Дом у Асіпавічах Вілейскага раёна. Т. (8-01771) 28717.

• Дом у в. Засценкі Іжанскага сельсавета Вілейскага раёна. Т. 98-033) 3513656.*

### МЯНЯЮ

• 3-пакаёвую кватэру 62 кв. м у Наваполацку на 2- ці 1-пакаёвую кватэру ў Вілейцы. Альбо прадам. Т. 98-0290 2922439.

### ЗДАМ

• Гараж у Маладзечне па вул. Міру, 6х9. Т. (8-029) 5753932.*

• Пакой у Маладзечне. Т. (8-029) 5019550.*

• У арэнду гандлёвае памяшканне ў двух ярусах плошчамі рознай велічыні, усяго 120 кв. м, у Астраўцы. Т. (8-029) 3278422.*

## ПАСЛУГІ

### БУДАЎНІЧАЯ ТЭХНІКА

• Міні-экскаватар. Міні-пагрузчык. Трамбоўка 500 кг. ІП Карповіч В.В. УНП 692013268 Т. (8-029) 9381010.*

• **МІНІ-ЭКСКАВАТАР**. Усе віды земляных работ (газ, вада, фундаменты, гідрабур пад фундамент на палях (свайныя фундаменты). ІП Жак А.А. УНП 691515498. Т. (8-044)5522028.*

### ІНШЫЯ ПАСЛУГІ

• **СПІЛУЕМ ДРЭВЫ.** ІП Мамай У.А. УНП 692014435 Т. МТС (8-029) 8886923.*

• «Дах пад ключ». Металачарапіца, прафнасціл (ад 8,5 руб./кв.м), піламатэрыялы. Замер. Дастаўка. Мантаж. ІП Аноп С.М. УНП 190945853 Т. (8-029) 6668710, (8-033) 6333151.*

• Бурэнне свідравін (скважын) дыяметрам 32 мм, 63 мм, 90 мм і 125 мм. Работы выконваем магутнай малагабарытнай устаноўкай. Спецыялісты атэставаныя на тэрыторыі РБ. Магчымы выезд для кансультацыі. Кошт работы ад 40 рублёў м/п. ІП Субат П.І. УНП 692010733. Т. (8-029) 8331245, (8-044) 5486213.*

• Бухгалтарскі ўлік. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*

• Выканаем дахавыя работы любой складанасці. Гарантыя. ІП Дзядкоў С.Л. УНП 692241524. Т.(8-029) 2737650.*

• Выраб розных металавырабаў, варот, брамак, агароджаў з сеткі і прафнасціла, навесы і г.д. Замер, дастаўка, устаноўка. ІП Мазалеўскі М.В. УНП 691514343. Т. (8-029) 5081330.*

• **ВЫРАБ ЯКАСНЫХ ЧАХЛОЎ** любой складанасці, пашыў аўтамабільных салонаў, тэнтаў для лодак і катараў. ІП Мацко А.А. УНП 691514463. Т. Вэлком (8-029) 6932184.*

• **МАНТАЖ-ДЭМАНТАЖ** дахаў, уцяпленне дамоў, афарбоўка, падшыва, абшыўка франтонаў сайдынгам і інш. ІП Бесараб А.В. УНП 691892579. Т. (8-029) 2754603, (8-044) 4654416.*

• Рамонт камп’ютараў, ноўтбукаў, маніതораў, планшэтаў. ІП Тачылаў А.Н. УНП 691290239. Т. (8-029) 5754003, (8-029) 1559223.*

• Рамонт тэлевізараў і падсветкі ЖК-тэлевізара. Гарантыя да 1 года. ІП Зелянко У.М. УНП 690040614. Т. МТС (8-029) 2710273, Велком (8-044) 5559347, (8-0176) 546298.*

• Рамонт халадзільнікаў. ІП Шапавал Г.В. УНП 690688393. Т. (8-029) 3395974.*

• Рамонт халадзільнікаў у Вілейцы. Выезд дадому. Гарантыя. ІП Буцер А. УНП 690259548. Т. (8-029) 5024691.*

• **СПІЛУЕМ ДРЭВА.** Растэрміноўка. Скідкі. Акцыі. ІП Былінскі В.М. УНП 690475812. Т. (8-029) 5755757, (8-029) 3493379.*

• **СПІЛОЎВАННЕ і АБРЭЗКА** дрэў. Магчымы вываз, выкарчоўванне пнёў. Скідкі. ІП Мамай Ю.А. УНП 691895935. Т. Вэлком (8-029) 3301964, МТС (8-029) 8177983.*

## РОЗНАЕ

### ПРАДАЕЦЦА

**Будматэрыялы, сантэхніка**

• Блокі газасілікатныя. Дастаўка. Разгрузка. Можна ў растэрміноўку. Т. (8-044) 7516244.*

• Цэгла віцебская, вогнетрывалая, пячное ліццё, кладачныя сумесі. Т. (8-029) 8351640, (8-044) 7557072.*

**Камп’ютары, TV, сродкі сувязі**



• Антэна спадарожнікавая. Т. (8-029) 5019550.*

**Жывёла, птушка, пчолы**

• Козачкі 7 месяцаў. Нядорага. Т. (8-033)6684495.*

• Парасяты в’етнамскія. Т. (8-033) 6816635, (8-0176) 503195.

• Цялушка цельная. Валожынскі раён. Т. (8-0173) 40012, МТС 5852547.

**Іншае**

• Балон, торфабрыкет, тачка будаўнічая, памперсы для дарослых, крэсла. Т. (8-029) 7060485.*

• Дровы (абрэзкі), сасна, елка, 20-25 см, 10 куб.м, 25 рублёў за 1 куб.м. Дровы яблыні, 10 куб. м, 50 рублёў за 1 куб. м. Т. (8-044) 5770044.*

• Дровы з дастаўкай. Т. (8-025) 7331501.

• Дровы нядорага, дастаўка бясплатна. Т. (8-029) 6106061.



• Электраводанагравальнік. Т. (8-029) 9139773.

### КУПЛЮ

**Бытавую тэхніку**

• Няспраўныя плазменныя і LCD тэлевізары. Т. (8-029) 5634740.*

**Жывёла, птушка, пчолы**

• Кабана, свінню жывой вагой.Т. (8-029) 2552321.*

**Антыкварыят**

• Манету царскую. Т. Вэлком (8-029) 6488117.*

**Іншае**

• 4-ы том Беларускай энцыклапедыі, выдав. «Беларуская Энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі, 1996. Т. (8-029) 6550799.*

• Бульбу буйную. Т. (8-029) 7082011.*

## ПРАЦА

### ШУКАЮ РАБОТУ

• Выканаем усе віды будаўнічых і дэмантажных работ. Т. (8-029) 8521268, (8-044) 7556706.

**Тэлефонныя коды гарадоў рэгіёна:**

| | | | |
|---|---|---|---|
| Астравец | -01591, | Вілейка | -01771, |
| Ашмяны | -01593, | Маладзечна | -0176, |
| Валожын | -01772, | Мядзел | -01797, |
| | | Смаргонь | -01592. |



Канцэрт, які можна было паглядзець анлайн, прайшоў 26 кастрычніка.

# Песні як яны ёсць. Рэцэнзія на канцэрт да дзесяцігоддзя гурта Sumarok

**Я амаль ніколі не пішу рэцэнзій, але Sumarok натхніў паспрабаваць свае сілы.**

Пачну рэцэнзію з асабістых абставінаў – гэтым разам яно рэлевантна. Справа ў тым, што канцэрт адбыўся ў дзень, калі ў мяне яшчэ ішло лячэнне антыбіётыкамі, і левае вуха яшчэ наракала на доўгатэрміновую інфекцыю, якая тыдзень не давала жыцця. Настрой не быў найгоршым, бо я пачынала пачувацца лепей, але яшчэ была ўпэўненая ў тым, што ацаніць высокае мастацтва не буду ў стане. Асабліва калі ўлічыць, што я мела сачыць за канцэртам праз інтэрнэт, з усімі магчымымі тэхнічнымі праблемамі і мімавольным пераканнем у тым, што «файна, што так можна, але гэта не тое, што ўжывую».

Але зрэдку, нечакана, здараюцца цуды.

Уключаецца трансляцыя, і на фоне таямнічай цэмры малюецца сілуэт **Ігара «Вожыка» Палынскага** з гітарай у абдымку, бы Мадонна з дзіцем. Вожык чула і выразна дэкламуе лірычныя радкі. Аб чым канкрэтна? Я не запомніла. Затое атмасфера была створаная з гэтага моманту на ўсё мерапрыемства.

**А канцэрт Sumarok – гэта, адназначна, падзея. Не ўрачыстая, а такога самага духу, як музычны вечар у старых сяброў.**

Якія яшчэ маюць выдатны музычны густ і заўжды трапляюць па нотах. На двары марозная ноч, а ў руцэ куфель улюбёнага піва. А ты глядзіш на вытанчаныя ўзоры на акне, пакуль вымяраюць размовы і меладычны, знаёмы голас падымаецца як залаты дым успамінаў пра першую маладосць.

І сапраўды, можа, дзякуючы інтымнай, амаль сямейнай, атмасферы, Вожык не пабаяўся распрануцца перад мікрафонам (у самым прыстойным сэнсе слова, натуральна): ад джазу да спяванай паэзіі, ад рока да **Жака Брэля**... І пастаянная сувязь з аўдыторыяй – блізкай і далёкай.

**Чалавек, гітара, душа. Гэтага дастаткова. Песні як яны ёсць.**

А прагучылі песні старыя і новыя, свае і чужыя. Праўда, чужыя песні Sumarok ператварае ў свае, а свае – і сумныя, і вясёлыя; і меланхалічныя, і поўныя надзеі. Яны розныя, але ўсе саграваюць слухачоў знутры, як усмешка таемна каханага чалавека (або, для нерамантыкаў, як тое ж піва).

Можа, Вожык Палынскі не валодае самым шырокім дыяпазонам або найлепшай тэхнікай беларускага вакала, але ў яго тэмбры і ў струнах яго інструмента ёсць тая магія, той колер, тая асабіста рабіць з яго непаўторнага музыканта. І гэта самае каштоўнае.

Нягледзячы на тое, што цяперашні склад Sumarok падзелены на тры гарады, гурт жыве, стварае і натхняе. Можам толькі шчыра падзякаваць за непаўторныя ўражанні і пажадаць ім найлепшага і надалей.

Запіс з канцэрта з'явіцца на старонках гурта неўзабаве – можа, і вы захочаце скарыстацца музычным цудам полацка-маладзечанскіх чарадзеяў?

Sumarok – беларускі рок-гурт, утвораны ў 2009 годзе. Заснавальнікам і лідарам гурта з'яўляецца Ігар Палынскі – журналіст, тэхнічны рэдактар «Рэгіянальнай газеты».

**Анхела ЭСПІНОСА РУІС.**

# У іншай краіне вывучаеш сваю культуру

МАЛАДЗЕЧНА

**Круглы стол на тэму традыцый і звычаяў Беларусі і Германіі прайшоў у бібліятэцы 24 кастрычніка.**



Тры валанцёры: Антонія, Паліна і Элізабэт прыехалі з Германіі ў Беларусь для валанцёрскай працы.

Сустрэча адбылася ў межах тыдняў Германіі ў Беларусі.

На ім прысутнічалі валанцёры з Германіі Элізабэт, Антонія і Паліна. Госці распавялі пра свае сем'і, гарады і культурныя асаблівасці. Вучаніца 11 класа маладзечанскай школы №5 **Юля Дземідовіч** распавяла пра беларускія традыцыі – Купалле, дажынкі і іншыя. Прысутныя адзначылі, што падчас міжнародных сустрэч у першую чаргу лепш вывучаеш сваю культуру. Толькі так можна распавесці пра яе прадстаўнікам іншых нацыянальнасцяў.

Пасля сустрэчы нямецкія госці падзяліліся ўражаннямі пра Беларусь. Дзяўчаты прыехалі ў Беларусь у верасні па лініі Інстытута імя Гётэ, дапамагаюць у школах на ўроках нямецкай мовы, у арганізацыі культурных праектаў.

Антонія ў якасці валанцёра дапамагае маладзечанскай гімназіі №10 праводзіць урокі нямецкай мовы. Нядаўна ў гімназіі падрыхтавалі тэатральную пастаноўку на нямецкай мове.

### Што расказваюць пра Беларусь блізкім

– Тут вельмі дружалюбна, – кажа Элізабэт. – Надзвычай гасцінна. А здзівіла, што калі пераходзіш вуліцу, то аўтамабіль спыняецца перад пешаходам. Гэта нязвыкла, у Германіі кіроўцы не такія ветлівыя.

– І ў магазінах, і проста на вуліцы людзі гатовыя дапамагчы, – дзеліцца Антонія. – Хаця і не ведаюць англійскай або нямецкай мовы. Кідаецца ў вочы, што тут вельмі чыста. Прыемныя для вока гарады.

### Па чым адразу пазнаяце, што вы ў Беларусі?

– Мне падаецца, тут больш высокая дысцыпліна ў школе ў параўнанні з Германіяй, – лічыць Антонія. – Не заўважыла такога, каб кідалі смецце на зямлю. Калі школьнікі бачаць, што я не разумею мясцовую мову, гасцінна спрабуюць дапамагчы.

### Па чым сумуюць больш за ўсё

– Дома я шмат ездзіла па мясцовасці на роварах, – расказвае Паліна. – Крыху не хапае гэтага.

– Гэта тычыцца не толькі Беларусі, – тлумачыць Элізабэт. – Я вельмі люблю размаўляць з людзьмі і разумець іх. А тут існуе моўны бар'ер. Але ўсё роўна мы адчуваем тут сябе свабодна і добра.

### Што здзівіла ў Беларусі

– Дзіўна, што па назве магазіна немагчыма здагадацца, што там прадаецца, – расказвае Элізабэт. – Становіцца яшчэ складаней з-за таго, што назвы напісаныя кірыліцай.

– Калі мы заходзім у кавярні і размаўляем па-нямецку, то здымаюць нас для інстаграма, – прыгадала Антонія.

– Тут увогуле вельмі шмат гавораць па тэлефоне – у школе, на вуліцы, паўсюль, – дадае Элізабэт.

### Што дасць досвед валанцёрства ў Беларусі

– У першую чаргу, з-за таго, што мы не ведаем мовы, а нас пасялілі ў сям'ю, мы вучымся камунікацыі, – кажа Элізабэт. – Калі ў такіх умовах застацца аднаму без бацькоў, хутчэй станешся самастойным, адкрытым.

– Тут мы шмат расказваем пра сваю культуру, – гаворыць Паліна. – А гэта дапамагае даведацца пра яе яшчэ больш, нешта новае.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**
**Фота аўтара.**

## У Маладзечне закрылі тыдні Германіі

**Урачыстае закрыццё маладзечанскай праграмы тыдняў Германіі ў Беларусі адбылося 25 кастрычніка.**

На сустрэчы прысутнічала першы дарадца пасольства ФРГ у Беларусі **Ані Лютэр**. Яна ацаніла, што Маладзечна ўжо традыцыйна актыўна ўдзельнічае ў тыднях Германіі. А так адбываецца таму, што тут ёсць людзі, якія ахвотна прымаюць у сябе мерапрыемствы тыдняў і працуюць з арганізацыяй.

Спадарыня Лютэр адзначыла, што аднымі з лепшых былі літаратурны батл і фотаконкурс. І хаця яна нічога не мае супраць камп'ютарных гульняў і іншых сучасных тэхнічных магчымасцяў, нельга пераацаніць захапленне паэзіяй, літаратурай і мастацтвам.

На ўрачыстасці ўзнагародзілі пераможцаў конкурсных мерапрыемстваў у межах тыдняў. Яны атрымалі падарункі.

**Юля Дземідовіч** з 5-й школы стала самым актыўным удзельнікам маладзечанскай праграмы тыдняў Германіі ў Беларусі.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**



Загадчык залы літаратуры на замежных мовах Тацццяна Летунова.



Юля Дземідовіч.



Першы дарадца пасольства ФРГ у Беларусі Ані Лютэр.

# Анхела

**Месяц прайшоў з заканчэння Міжнароднага Кангрэса даследчыкаў Беларусі, і я ўсё імкнуся адысці ад яго, у найлепшым сэнсе. На добрай справе, я ўжо трэці раз удзельнічаю ў ім – упершыню з'явілася магчымасць у 2016 годзе, калі вучылася на другім курсе магістратуры ў Варшаўскім універсітэце. І, трэба сказаць, гэта ці не найлепшы дзень года для мяне, штогод. Заўжды падаю заяўку практычна адразу, як толькі выходзяць першыя абвесткі, і лічу дні да вялікай сустрэчы навукоўцаў і студэнтаў. Але чым жа гэты кангрэс гэтак важны для мяне і чым ён можа быць карысным Беларусі ў цэлым?**

# Колькі ўсяго мы не ведаем пра Беларусь, або Навошта нам кангрэсы

**Давайце вернемся ў тую далёкую эпоху, тры гады таму. Пасля славістыкі ў Іспаніі ў мяне атрымалася паступіць у магістратуру па беларускай філалогіі, вучылася я ў Варшаве.**

Трэба сказаць, беларускую мову вывучыла я самастойна, яшчэ на радзіме, і таму магістратура была для мяне ўжо вялікім поспехам. Здала, значыць, першыя сесіі, пачала другі год, і тут – бах! Мяне, яшчэ магістрантку, прынялі на прэстыжны міжнародны кангрэс, мабыць, найбольшы сярод даследчыкаў беларушчыны. Невымоўнае шчасце! Да таго ж – першы раз у Каўнасе (там і правялі ў 2016 годзе кангрэс). Хто там быў, той ведае, наколькі горад чароўны...

Для мяне першы кангрэс запомніўся як магічны, амаль містычны досвед. Ярка памятаю беларускамоўную рэгістрацыю – ведаеце, колькі разоў у жыцці да мяне на аўтамаце звярталіся па-беларуску адразу, без папярэдніх спробаў на іншых мовах? Напэўна, не здзіўлю, калі скажу, што дужа рэдка. О! Ледзь не забыла расказаць! Прыязджала і **Сіёры Кіёсава** з Японіі (дзяўчына, якая вывучыла беларускую мову – рэд.). І мы з ёй па-беларуску размаўлялі. Дзе яшчэ вы такое бачылі? Пытанне не абавязкова рытарычнае – калі ведаеце такія месцы, калі ласка, раскажыце!

У 2017 годзе кангрэс прайшоў акурат у Варшаве. Я добра ведала горад і таму мела магчымасць схадзіць на ўсе цікавыя мне секцыі. Калі не ўлічыць, натуральна, супадзенні ў часе – дагэтуль маю праблемы з паўсюднасцю і адмовай законаў фізікі, на жаль. Але шмат чаго паспела і, што галоўнае, атрымала параду легендарных навукоўцаў перад тым, як пачаць пісаць сваю кандыдацкую дысертацыю, якую абараніла сёлета. Будучы ўжо магістрам (і, магчыма, гэта прагучыць дзіўна), адчувала сябе нашмат больш упэўненай гэтым разам. Затое, як і першы раз, ведала, што дыскусіі і праўкі настолькі каштоўныя, як магчымасць паказваць сваю працу і пачуць у свой адрас добрыя словы. Не меней важны быў мой час на перакладніцкай секцыі, падчас якой прэзентавала свае пераклады вершаў **Максіма Багдановіча** і атрымала фідбэк (зваротную сувязь – рэд.) на гэты конт. Цікавае было параўнанне перакладаў з беларускай на ўкраінскую мову (ці не самую блізкую да мовы Купалы) і на далёкую іспанскую, якая захоўвае не толькі зусім адрозную лінгвістычную сістэму, але і абсалютна іншыя культурніцкія рэаліі.

Мяркую, не трэба доўга тлумачыць, наколькі я была расчараваная, калі не ўдалося арганізаваць кангрэс у Беларусі летась. 2018 год быў для мяне складаным і, шчыра скажу, даволі сумным – амаль не было прагрэсу з дысертацыяй (і ўвогуле з даследаваннямі), я была адна ў Мадрыдзе, і ў іншых сферах жыцця было ненашмат лепш. Не скажу, што ўсе праблемы цяпер вырашаныя, але навіны пра правядзенне кангрэса ў Вільні ў гэтым годзе вельмі мяне пацешылі.



Анхела выступае з дакладам.

Вільня – горад цудаў і ўспамінаў іншых эраў. Я была там другі раз і была рада заўважыць, што віленская чароўнасць нікуды не сышла. Я хадзіла па Вільні, як бітламан у Ліверпулі (легендарны гурт **The Beatles** быў заснаваны ў гэтым брытанскім горадзе – рэд.). Вось дом, дзе знаходзілася друкарня **Францыска Скарыны**. А вунь там была рэдакцыя «Нашай Нівы». А тут **Якуб Колас** жыў некаторы час. А той рэстаран – любімы **Уладзіміра Караткевіча**...

Турызм, аднак, не быў маёй мэтай. Нават калі і беларускацэнтрычны турызм. Сёлета я, ужо доктар філасофіі, запісалася па прапанове паэта і журналіста **Алеся Аркуша** на секцыю па беларускай літаратуры 90-х гадоў. Тэма была далёкай ад маёй кандыдацкай спецыялізацыі, але я бачыла ў ёй непараўнальную магчымасць навучыцца новаму, даведацца невядомае, зразумець паняцці, пра якія мела толькі невыразныя ўяўленні. І не памылялася. Але давайце, усё-ткі, па парадку.

Хачу з удзячнасцю ўзгадаць, што арганізатары кангрэса забяспечылі нам пражыванне ў Вільні, і ў дужа прыгожых гатэлях і хостэлах, да таго ж. У мяне была суседка па пакоі. Прыгажосць такіх міжнародных мерапрыемстваў у тым, што ўсе нервуюцца перад перспектывай, што не знойдуць агульную мову з суседам. Гэта не метафара, а літаральная рызыка. Як даказвае штогод Міжнародны Кангрэс даследчыкаў Беларусі, Беларусь даследуюць не толькі беларусы, а шэраг апантаных людзей з усіх кутоў свету! Ад Японіі да ЗША, ад Аргенціны да Расіі... Яшчэ важна тое, што бываюць людзі зусім адрозных спецыяльнасцяў, якія размаўляюць на розных мовах і не заўжды валодаюць беларускаю (дарэчы, я не ўспрымаю гэта як кепскі знак – Беларусь не толькі «мілагучнай мовай» зацікавіць (ненавіджу стэрэатып пра «мілагучнасць беларускай мовы», бо ён абмяжоўвае мову, пазбаўляе яе жыццёвых рысаў, якія павінны мець усе сучасныя мовы, і спрыяе посткаланіяльнаму мысленню). Пра гэта яшчэ паразважаю ў адной з наступных калонак), а шматбаковая, унікальная краіна з багатай культурай, якую можна даследаваць, як толькі захочаш. Дык вось, суседка ў мяне была доктарка гістарычных навук з Польшчы, ужо на пенсіі, якая займалася старажытнымі кірылічнымі рукапісамі. Яна якраз баялася, што я не зразумею ніводнай ёй вядомай мовы, але аказалася, што ў нас нават некалькі агульных! І дзякуючы ёй я патрапіла да архіва Бібліятэкі Урублеўскага, патрымала ў руках некалькі беларускіх кніг 19 стагоддзя. Найлепшы дзень майго жыцця, што называецца!

Сесіі былі цікавыя, разнастайныя, багатыя ў ведах і асобах, як заўжды, але я была абсалютна ўражаная сваёй. Гэта значыць, дыскусіяй, якой паспрыяў Алесь Аркуш. І адчула сябе патрэбнай, і пачула такія цікавыя рэчы, якія нагадалі яшчэ раз, у самы патрэбны момант, колькі ўсяго я не ведаю... Я падрыхтавала даклад пра Таварыства маладых літаратараў «Тутэйшыя», і падышла да тэмы з параўнаўчай перспектывы – «Літаратура пераходнай эпохі ў Беларусі і ў Іспаніі». Аналізавала вершы **Анатоля Сыса** побач з творчасцю іспанскага паэта з Гранады паэта **Луіса Гарсія Мантэра**. Але там былі неверагодныя даследчыкі, сябры! І нават удзельнікі, якія былі асабіста (і вельмі добра) знаёмыя з майстрам Сысом і іншымі «тутэйшымі»! Не хацелася б вас катаваць падрабязнасцямі, але ведайце, што размовы былі неверагодныя і адкрылі, прынамсі перада мной, новыя шляхі для навуковага (літаратурнага, асабістага) росту.

Галоўную думку, якую я хацела б давесці, найлепш выказаў мой добры і стары сябар **Павел Слюнькін**, які цяпер працуе прэс-сакратаром Амбасады Беларусі ў Літве. Важны сам факт, што на кангрэсе сустракаецца такая колькасць розных спецыялістаў, з самых адрозных краін і навуковых галін, але ўсе звязаныя сваёй зацікаўленасцю Беларуссю, апантанасцю ёй. Мне здаецца (калі ласка, напішыце мне, калі памыляюся), што беларусам часта не хапае добрых слоў у свой бок. Асабліва ад людзей з замежжа, якія б пацвердзілі, што Беларусь цікавая, вартая і – сюрпрыз! – файная. То ведайце – кожны год збіраецца вялікі калектыў людзей, якія падыходзяць да Беларусі з навуковай аб'ектыўнасцю.

**І мы штогод пераконваемся ў тым, што займаемся вартай справай. Беларушчынай.**




Анхела ЭСПІНОСА РУІС
г. Малага (Іспанія)
паэтка,
доктар філасофіі
ў галіне літаратуры
angeespi@ucm.es



Інспектар МНС Ксенія Таратута, таксіст Святлана Набокава, даяр Яўген Магала.

# «Незалежна ад полу стаць лепшым». У Маладзечне гутарылі пра нетыповыя прафесіі для мужчын і жанчын

**Інспектар МНС, таксіст і даяр – звычайныя прафесіі для іх і нетыповыя для іх полу з погляду грамадства. Маладзечанская філія Беларускай асацыяцыі журналістаў правяла мерапрыемства «Разбураем гендарная стэрэатыпы-2», у якім людзі розных прафесій расказвалі, чаму цяпер не варта раздзяляць іх на жаночыя і мужчынскія, і падзяліліся асабістым досведам.**

### «Прыйшла ў МНС таму, што мне цікава»

**Ксенія Таратута** марыла стаць баявым лётчыкам, але падчас медкамісіі ёй параілі адкінуць гэту думку. Тады з'явіўся варыянт з МНС. Бацькі былі рады, што дачка знайшла сур'ёзную справу, а сябры падтрымалі яе выбар. Цяпер яна інспектар Маладзечанскага ГРАНС, праводзіць праверкі і маніторынгі. У аддзеле разам з Ксеніяй працуюць чатыры жанчыны. А калі яна толькі прыйшла працаваць, то ў Маладзечне стала першай жанчынай-інспектарам.

– Калі я прыйшла, то мяне добра ўспрынялі, дзесьці дапамагалі, але ніякіх паслабленняў, што я дзяўчына, не рабілі.

У Ксеніі ёсць сын. Яна была ў дэкрэтным адпачынку, выйшла на работу і часам бывае, што і дзіця таксама разам з ёй знаходзіцца ў аддзеле. У Маладзечанскім ГРАНС з'явіўся жарт, што ў сына Ксеніі будзе 20 год выслугі ў МНС.

**Ксенія кажа, што не адчувае дыскамфорт ад таго, што на рабоце большасць калег – мужчыны.**

– Прыйшла ў МНС не для таго, каб замяніць мужчыну, прынізіць яго альбо сябе ўзвысіць. Я прыйшла таму, што мне гэта цікава. Жанчыны ў МНС сутыкаюцца не са стэрэатыпамі, а з рэальнасцю: жанчына – гэта ўсё ж мама, працяг роду, гэта не сёння-заўтра дэкрэтны, пасля выхаду з дэкрэту – «смаркатае дзяцінства».

### «З дзяцінства была цяга да машын»

А **Святлана Набокава** працуе ў таксі з чэрвеня гэтага года. Яна прызнаецца, што ў яе заўсёды была цяга да машын. З дзяцінства займалася матакросам, а ў 1990-х ганяла аўто з Еўропы. Потым адкрыла мэблевы бізнес, але праз нейкі час закрыла яго. Працу таксіста Святлане параіла дачка.

**– Жанчын-кіроўцаў шмат. Думаю, з імі ездзіць бяспечна. Жанчыны разумеюць, што адказваюць за сваё жыццё і жыццё пасажыраў.**

Святлана кажа, што не баіцца працаваць таксістам ноччу, а канфліктныя сітуацыі вырашае хутка і яны адбываюцца з-за цаны паездкі, а не з-за полу кіроўцы. Святлана не адзіная жанчына, якая працуе таксістам у Маладзечне. Яна дзеліцца, што ў радыёэфіры паміж кіроўцамі мужчыны часта робяць ёй кампліменты.

– У любым калектыве ёсць нейкія канфліктныя сітуацыі, але мне зручна працаваць у кампаніі, дзе каля мяне большасць мужчын. Так склалася, што я заўсёды працавала ў мужчынскіх калектывах.

Святлана лічыць, што ў кожнага чалавека свой склад розуму, таму людзі павінны займацца тым, што ім падабаецца. А ў наш час ужо нельга раздзяляць прафесіі на мужчынскія і жаночыя.

**– Мужчына любіць гатаваць – хай гатуе, жанчына больш разумее тэхнічныя пытанні і любіць кіраваць аўто – гэта нармальна. А на дарозе ўвогуле няма мужчын і жанчын. Усе людзі – удзельнікі дарожнага руху.**

Па словах Святланы, калі чалавек хоча працаваць таксістам, то ён павінны быць стрэсаўстойлівым і псіхолагам. Яна кажа, што ўсё роўна, хто ты – мужчына ці жанчына, калі ты не разбіраешся ў людзях, то лепш не ісці ў таксісты.

### «Мая прафесія – цяжкая фізічная праца»

**Яўген Магала** працуе даяром у сельскай гаспадарцы чатыры гады. Ён адразу прызнаецца, што прыйшоў у прафесію з-за жылля, якое давала прадпрыемства.

**Яўген лічыць, што незалежна ад полу можна стаць лепшым у прафесіі, якую ты абраў.**

Мужчыны, якія працавалі на прадпрыемстве, казалі, што Яўген займаецца не мужчынскай справай.

– Я ім адказваў, што прыйшоў сюды за зарплатай. Калі разабрацца, то мая прафесія – гэта цяжкая фізічная праца. Я не сказаў бы, што гэта ўвогуле для жанчын.

Цяпер Яўген дапамагае ў працы і жанчынам-калегам. Ён камфортна адчувае сябе на рабоце, дзе асноўная частка калег – жанчыны. Працоўны дзень складаецца з некалькіх змен, а ўставаць трэба каля чатырох раніцы. Мужчына кажа, што працаваў гэта лета без выхадных.

**Ён успамінае, што начальства хацела зрабіць падраздзяленне з мужчын, але дастатковую колькасць ахвотных не змаглі набраць.**

Жонка Яўгена таксама працавала даяркай, але ўжо некалькі год сядзіць з дзецьмі і займаецца гаспадаркай.

**У сям'і Магалаў ёсць свая гаспадарка, таму працуюць не толькі муж і жонка, але і малодшы сын, якому восем год.**

### «Вы абралі прафесію не для вашага полу»

**Ксенія:** Я сказала б, што гэта ваша асабістае меркаванне. Мая праца пад сілу любому: мужчыну ці жанчыне. Калі вы так лічыце, то лічыце так і далей.

**Святлана**: Адказала б так, як і Ксенія. У мяне ўсё ў парадку. Цяпер лепшы перыяд у маім жыцці.

**Яўген**: Канешне, я з вамі пагаджуся. Гэта не мая работа, але я не кіну яе.

**Настасся УТКІНА.**

# Таршэр

У сучасным свеце мы перанасычаныя лішняй інфармацыяй. Часам, каб знайсці вартую кнігу ці фільм, мы губляем не адзін вечар. Таму вырашылі рабіць падборкі самых вартых твораў мастацтва, каб нашы чытачы маглі знайсці ў іх падказкі.

Гэта могуць быць кнігі, фільмы, серыялы, музыка ці карціны. Важна, каб гэта былі сапраўды вартыя ўвагі творы. Каб вы, вярнуўшыся з работы дамоў, ведалі, як з карысцю можна бавіць вечар.

Героямі гэтай рубрыкі мы запрашаем нашых чытачоў і герояў публікацый. Яны выбіраюць свой спіс і расказваюць, чаму менавіта гэтыя творы зачапілі іх. Няхай у вашых вечарах з таршэрам будзе больш вартых увагі твораў.

# 10 любімых твораў мастацтва фатографа

## Сённяшні госць «Таршэра» – маладзечанец Андрэй Рагінскі

**Госць нашага сённяшняга «Таршэра» – прэс-сакратар ХК «Дынама-Маладзечна», кладаўшчык на «Маладзечнамэблі» і фатограф Андрэй Рагінскі. Ён распавёў пра свае дзесяць любімых твораў мастацтва.**

– Не магу назваць сябе чытаючым чалавекам. У дзяцінстве, юнацтве, маладосці чытаў усё, заўсёды, паўсюль. Цяпер чытаю нашмат менш. Але я не безнадзейны.

**1. Брайн Бароў «Джоні Д. Ворагі грамадства»**

Гісторыя аднаго з самых вядомых злачынцаў сучаснасці Джона Дзілінджара, які наводзіў страх на ўлады ЗША ў 30-я гады мінулага стагоддзя. У той жа час яго любіў просты народ.

Хаця твор успрымаецца як мастацкі, гэта не так. Кніга цалкам складаецца з архіўных матэрыялаў ФБР і паліцыі. На маю думку, чыста мужчынскае чытво.

**2. Артур Хейлі «Аэрапорт»**

Апісанне некалькіх гадзін жыцця міжнароднага аэрапорта. Калі людзям даводзіцца працаваць пры звышнагрузках у сувязі з прыроднымі катаклізмамі і пры гэтым разбірацца з асабістым жыццём.

**3. Стывен Кінг «Лавец сноў»**

Ніколі не ўспрымаў Кінга як аўтара, які піша пра знешнія страхі. Падаецца, што ў творчасці Вялікага і Жудаснага заўсёды асноўны ўпор робіцца на тых страхах, якія ўнутры нас.

«Лавец сноў» – гэта пазл, раман з некалькімі сюжэтнымі лініямі, якія спачатку ніяк не звязаныя адна з адной. На маю думку, адзін з найбольш цяжкіх для чытання твораў аўтара. Але, дачытаўшы яго да канца, вы будзеце ўзнагароджаныя.

**4. «Зялёная міля»**

Пераходзім да кінематографа, але застаёмся з Кінгам.

**Насамрэч Кінга экранізаваць вельмі складана. Удалых вынікаў адзінкі. «Зялёная міля» – адзін з іх.**

Кніжны Джон Кофі максімальна дакладна перададзены ў фільме, прымушае перажываць і плакаць. Для мяне гэта адзін з паказчыкаў якасці.

**5. «Форэст Гамп»**

Цудоўны фільм з цудоўным Томам Хэнксам у галоўнай ролі.

Нас пастаянна вучаць, што ўсяго ў жыцці можна дасягнуць толькі карпатлівай працай. Так, вядома. Але я веру, што не менш істотную ролю адыгрывае выпадковасць. Тая самая, што суправаджала галоўнага героя цягам жыцця. Вельмі добрае кіно.

**6. «Сабачае жыццё»**

Проста паглядзіце гэту карціну. Магчыма, пасля вы станеце крыху дабрэйшымі да братоў нашых меншых.

**7. Спектакль «Рэвізор» у Купалаўскім тэатры**

Мяркую, многія пагодзяцца, што лепшае кіно – гэта тэатр. Нядаўна пашчасцілівіся пабываць у купалаўскім на «Рэвізоры». Павел Южакоў-Харланчук у ролі рэвізора – гэта нешта. Акрамя выдатнай ігры акцёраў мяне ўразіла тое, што спектакль вельмі смела пастаўлены адразу на трох мовах: рускай, беларускай і трасянцы. Верагодна, менавіта гэты момант надае пастаноўцы асаблівую іскрынку.



Андрэй Рагінскі.

Фота забяспечанае Андрэем РАГІНСКІМ.



Фота Рычарда Лэма некаторыя назвалі так: «Займайцеся каханнем, а не вайной».

**8. Hotel California**

Крыху пра музыку. Мяне заўсёды здзіўляла гісторыя адной песні. У нашу бытнасць мала каму вядомая назва музычнага калектыву THE EAGLES, а тым больш хоць адна песня, акрамя Hotel California.

Яна выйшла ў 1977 годзе, авеяная тайнамі і легендамі, і працягвае гучаць з усіх дынамікаў. Рок, што стаў класікай.

**9. Dali Atomicus Філіпа Халсмана**

Мяркую, фатаграфію можна аднесці да сучаснага мастацтва. Як чалавек, які часам бярэ ў рукі камеру, я гляджу на здымкі часцей, чым на карціны. І некаторыя з іх сапраўды ўражваюць, натхняюць і дораць жаданне здымаць далей і больш.

Dali Atomicus – у нашы дні такі здымак можна нафаташопіць за 20-30 хвілін. Але ў 1948 годзе спатрэбілася шэсць гадзін і 28 спробаў перш, чым аўтар застаўся задаволены вынікам. Бедныя кошкі, у іх быў складаны дзень.

**10. Фотаздымак Рычарда Лэма**

Той самы здымак, на якім канадка Алекс Томас і яе бойфрэнд аўстраліец Скот Джонс цалуюцца на асфальце падчас пагромаў, што адбыліся ў Ванкуверы ў чэрвені 2011 года з-за пройгрышу мясцовай хакейнай каманды ў фінале кубка Стэнлі.

Фота простае, эпізадычнае, але стала легендарным дзякуючы сюжэту. Мяркую, кожны фатограф марыць зняць нешта падобнае. І не дзеля грошай або славы, а каб сказаць самому сабе: «Чувак, а ты ж рэальна круты».

**Падрыхтавала Зоя ХРУЦКАЯ.**

## Нічыя ў Смаргоні і перамогі камандаў Павілля ў другой лізе

У першай лізе прайшоў 26 тур. Смаргонская каманда згуляла з «Хімікам» з Салігорска. Смаргонцы адзначыліся двума галамі ў першым тайме, але не змаглі ўтрымаць перавагу: сапернікі забілі двойчы пасля перапынку. За «Смаргонь» галы забівалі **Дзяніс Гружэўскі** і **Віталь Ганіч**. У «Хіміка» адзначыліся **Кірыл Шакураў** і **Аляксандр Пракапенка**.

У другой лізе прайшоў 27 тур. «Ашмяны» згулялі з «Энергетыкам» з лікам 5:0. **Дзмітры Купнеўскі** з «Ашмянаў» адзначыўся чатырма галамі і прынёс перамогу сваёй камандзе ў гэту суботу. **Аляксандр Князюк** з «энергетыкаў» забіў аўтагол.

«Андэрдог» узяў перамогу на выездзе ў Горках. **Аляксей Бялевіч** за чатыры хвіліны да канца сустрэчы забіў гол, пасля якога «Горкі» не змаглі рэабілітавацца. За чысцінцаў у першым тайме забіў **Аляксандр Кротаў**, а за «Горкі» – **Аляксандр Барсукоў**.

Маладзечанцы зарабляюць яшчэ тры ачкі пасля матча з «Івацэвічамі». **Дудо** і **Кнацько-Штэрк** адзначыліся галамі ў другім тайме, а самі зялёна-белыя захавалі вароты ў недатыкальнасці. «Маладзечна» датэрмінова ўзяло бронзавыя медалі другой лігі. Апошні раз маладзечанцы выйгравалі медалі ў 2009 годзе.

**Настасся УТКІНА.**

## Астравецкія бегуны прывезлі бронзу з Львова і Мінска

Астравецкія бегуны ўдзельнічалі ў Львоўскім паўмарафоне. Паўтысячы спартсменаў спаборнічалі ў цэнтральнай частцы горада, якая выкладзеная старадаўнім брукам.

Сярод астравецкіх бегуноў лепшы вынік прадэманстраваў **Вадзім Матвійчук**.

Ён прайшоў паўмарафон за 1 гадзіну 24 хвіліны 6 секунд і заняў трэцяе месца ва ўзроставай катэгорыі 40-49 гадоў.

Добры час паказалі і двое іншых астраўчан, якія выступалі ў гэтай жа групе: асабовымі рэкордамі адзначыліся **Аляксандр Тумашчык** (01:35:11) і **Алег Клюшын** (01:40:43). А вось **Людміла Шкурко** і **Ніна КараPнькова** паказалі менш значныя вынікі. Каманду астраўчан дапоўнілі **Людміла Кушнарэнка, Аліна Куляшова, Аляксандр Зянькоў** і юны **Павел Казлоў**, які бег пяць кіламетраў.

**Анастасія Новікава** ў мінскім забегу «БягуЗаМаму», прысвечаным Дню маці, заняла трэцяе месца на дыстанцыі пяць кіламетраў.

**Паводле ostrovets.by.**

## У Беларусі праходзіць адкрыты чэмпіянат па настольным тэнісе

Прадстаўнікі настольнага тэніса з 50 краін стартавалі 30 кастрычніка на адкрытым чэмпіянаце Беларусі. За ўзнагароды спаборніцтваў будуць змагацца больш за 300 спартсменаў у дзвюх узроставых катэгорыях.

Сярод удзельнікаў тэнісісты, якія ўваходзяць у топ-100 сусветнага рэйтынгу: француз **Эмануэль Лебясон**, славенец **Баян Токіч**, расіянін **Кірыл Скачкоў**, японка **Сакі Шыбата**.

У лік гульцоў у мужчын увайшлі два беларусы – **Павел Платонаў** і **Аляксандр Ханін**, які будзе выступаць сярод дарослых і сярод спартсменаў да 21 года. У стартах сярод жанчын увайшлі **Надзея Багданава** і **Дар'я Трыголас**. У Мінску не згуляюць **Уладзімір Самсонаў** і **Вікторыя Паўловіч**.

Пераможцы ў малодшай узроставай групе стануць вядомыя 2 лістапада. А 3 лістапада вызначаць пераможцаў у старэйшай узроставай катэгорыі.

**Паводле belta.by.**

## Беларускія баскетбалісты даведаліся сапернікаў па кваліфікацыі ЧС-2023

Каманды Партугаліі, Кіпра і Албаніі сталі сапернікамі мужчынскай зборнай Беларусі ў першым адборачным раўндзе чэмпіянату свету 2023 года. Лёсаванне адбылося 29 кастрычніка ў швейцарскім Мі.

У другой кваліфікацыйнай групе згуляюць баскетбалісты Славакіі, Ісландыі, Люксембурга і Косава.

Матчы першага кваліфікацыйнага этапу пройдуць ад лютага 2020 да лютага 2021-га. У наступны адборачны раўнд патрапяць па дзве лепшыя каманды з двух квартэтаў.

У 2023 годзе фінальны турнір сусветнага баскетбольнага першынства ўпершыню пройдзе адразу ў трох краінах – Інданезіі, Японіі і Філіпінах.

**Паводле belarus.basket.**



Фота vk.com/belarusbl.

# Юныя смаргонскія баскетбалісты перамаглі ў першым туры лігі

**За ачкі на першым этапе турніру дзіцяча-юнацкай баскетбольнай лігі змагаліся каманды з Гродна, Салігорска, Мінска і Смаргоні. Каманду Смаргонскай СДзЮШАР прадстаўлялі выхаванцы Сяргея Дурэйкі.**

– Тур атрымаўся захапляльным, а вынікі гульняў да канца былі непрадказальныя, – ахарактарызаваў спаборніцтвы Сяргей Дурэйка.

З трох матчаў смаргонцы дамагліся трох перамог. Яны перамаглі каманды з Гродна (55:54), Салігорска (77:40) і Мінска (67:54). Такім чынам, смаргонцы занялі першае месца ў І туры дзіцяча-юнацкай баскетбольнай лігі (ДзЮБЛ).

– Смаргонская каманда была гатовая да таго тэмпу гульні, які дэманстравалі сапернікі на пляцоўцы. Мы ўжо не ў першы раз сустракаемся з гэтымі камандамі. У сваёй гульні рабілі стаўку на хуткія атакі. Гэта прынесла станоўчы вынік. Быў невялікі правал у гульні з мінчанамі, калі нашы высакарослыя гульцы не забілі некалькі мячоў, дазволіўшы саперніку скараціць лік да мінімуму. Але пасля хвіліннага перапынку сабраліся і пераламалі ход паядынку. Клопатна было гуляць супраць сталічных баскетбалістаў яшчэ і ў тым плане, што гэта каманда вельмі моцна найграная – яе гульцы пастаянна прымаюць удзел у еўрапейскіх лігах. Да таго ж, у гэтай камандзе шмат высокіх баскетбалістаў. У нас з гэтым дэфіцыт, – рэзюмаваў Сяргей Дурэйка.

**Паводле shliah.by.**

## Маладзечанец заняў другое месца на Кубку Беларусі па бодзібілдынгу

Маладзечанец **Арцём Радзівілка** заняў другое месца ў катэгорыі да 90 кілаграмаў на Кубку Беларусі па бодзібілдынгу і фітнесу.

Першы радок заняў прадстаўнік Літвы **Антон Заянчкоўскі**.

**Турнір прайшоў 26-27 кастрычніка ў Мінску.**

**Настасся УТКІНА.**




Фота Беларускай федэрацыі бодзібілдынгу і фітнесу.

Арцём Радзівілка – у цэнтры.



# Крыжаванка ад «Рэгіянальнай газеты»



**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**
1. Орган зроку.
3. У міжнародным праве – мера ўздзеяння ў адносінах да дзяржавы, якая парушае свае абавязацельствы, дагаворы.
4. Дзіця або падлетак, які застаўся без аднаго або без абаіх бацькоў.
8. Асоба, якой прад'яўлены судовы іск.
9. Становішча ў шашках і шахматах, калі любы ход гульца прыводзіць да пагаршэння яго пазіцыі.
10. Палац, вялікі памешчыцкі дом.
12. Ручны інструмент, прызначаны для забівання, кляпання ў выглядзе металічнага або драўлянага бруска рознай формы, насаджанага на ручку пад прамым вуглом.
13. Ніл Гілевіч: «Толькі з роднага долу, толькі ў роднай дуброве – Як не дрэвам, хоць … прарасту для жывых».
18. Лекавыя травы.
21. Атмасферная вільгаць, якая выпадае на зямлю ў выглядзе дажджу, снегу.
23. Патаўшчэнне скуры ці пухір з вадкасцю на руках або на нагах ад працяглага трэння.
25. Жазло, упрыгожанае разьбой і каштоўнымі камянямі – знак царскай улады.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**
2. Панаванне ў пэўным грамадскім асяроддзі тых ці іншых густаў, якія праяўляюцца пераважна ў асаблівасцях адзення.
5. Апытальны ліст для збору пэўных звестак.
6. Прыстасаванне для вентыляцыі памяшканняў.
7. Недахоп або адсутнасць харчовых прадуктаў як масавае няшчасце з прычыны неўраджаю, вайны.
11. Тое, пра што расказваецца, што выкладаецца, адлюстроўваецца.
14. Адзінка часу ў 60 мінут, якую адлічваюць ад поўдня ці ад сярэдзіны ночы.
15. Незанятая пасада, свабоднае месца ў штаце.
16. Навучэнец пачатковай або сярэдняй навучальнай установы.
17. Сіла, якая падтрымлівае, садзейнічае ўмацаванню.
18. Даручэнне або просьба зрабіць, выканаць.
19. Асноўная адзінка грашовай сістэмы краіны.
20. Узорны экзэмпляр новага вырабу.
22. Герой беларускіх казак, легенд, воін незвычайнай сілы, мужнасці і розуму.
23. Травяністая меданосная расліна сямейства губакветных з жоўтымі кветкамі і лімонным пахам.
24. Прыстасаванне, якое дапамагае сабраць валасы.

## Адказы на крыжаванку з №43

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 1. Тварог. 3. Гігант. 5. Летапіс. 7. Герб. 9. Траса. 12. Лімон. 13. Ласцік. 15. Рыса. 18. Расліна. 19. Гарадок. 20. Аснова. 23. Рэчышча. 25. Адкрыць.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 2. Рэпліка. 4. Аэрапорт. 6. Атлет. 7. Гама. 8. Бельгія. 10. Таксікоз. 11. Тузін. 12. Лупа. 14. Хмаркі. 16. Сцюжа. 17. Плаванне. 21. Лекцыя. 22. Нітка. 23. Рама. 24. Тарыф.



## ГАРАСКОП на 1-7 ЛІСТАПАДА


**АВЕН.** Вас чакае перыяд, поўны навін і падзей. У выніку ўсё будзе складвацца пазітыўна і спрыяльна. У фінансавых справах можна крыху рызыкнуць. У іншых справах не варта прымаць хуткія рашэнні. Каб пасля не шкадаваць, райцеся са знаёмымі. У асабістым жыцці варта прытрымлівацца спакойнага тэмпу.


**ЦЯЛЕЦ.** Перыяд падорыць вам шмат уражанняў і добрых магчымасцяў. Але пры гэтым неабходна быць уважлівымі і пільнымі да падзей, што будуць адбывацца вакол вас. У гэты час спатрэбіцца шмат творчай энергіі, каб рабочыя справы вырашыць найлепшым чынам.


**БЛІЗНЯТЫ.** Перыяд, калі вы можаце сустрэць кагосьці асаблівага. Не спужайце ўдачу ў асабістым жыцці. Верце ў свае сілы, гэта неабходна як для асабістых, так і для рабочых спраў. Адчувайце сябе ўпэўнена – пад вашымі нагамі цяпер цвёрдая глеба.


**РАК.** У гэты перыяд могуць чакаць няпростыя сітуацыі і розныя складанасці. Але ўсе непрыемнасці – дробныя і не вельмі напружваюць. Не трымайце ў сабе негатыўных эмоцый, але старайцеся выказваць іх тактоўна. Чакайце прыемных уражанняў ад узаемадзеяння з блізкімі.


**ЛЕЎ.** Зоркі раяць вам быць актыўнымі ў рабочых пытаннях. Магчыма, давядзецца праявіць напор і настойлівасць. У другой палове тыдня спатрэбіцца час для мараў і развагі сам-насам. Неабходна падтрымліваць цёплыя адносіны ў сям'і.


**ДЗЕВА.** Удалы перыяд ва ўсім, што тычыцца матэрыяльнай сферы. Пастарайцеся пазбавіцца ад таго, што займае зашмат часу і энергіі. У вас будзе бадзёры настрой і выдатнае самаадчуванне. Складаныя справы сэрца адкладзіце да больш спрыяльнага перыяду.


**ШАЛІ.** Прымайце сябе такімі, якія ёсць. Гэта аснова для таго, каб адчуваць сябе гарманічна і камфортна. Не ўсё будзе складвацца проста, для добрага выніку давядзецца дасягнуць плённай працай. Вашы партнёры будуць купаць вас у знаках увагі.


**СКАРПІЁН.** У гэты час вам давядзецца паказаць свае найлепшыя якасці для дасягнення мэтаў. Блізкія адносіны прынясуць прыемныя ўражанні. Таму абавязкова знайдзіце час для сустрэчы з сябрамі. У працы вас чакае перспектыўная прапанова.


**СТРАЛЕЦ.** Фінансавыя складанасцяў не чакаецца. Беражыце здароўе, могуць быць не вельмі сур'ёзныя ўскладненні.


**КАЗЯРОГ.** Рамантычныя адносіны будуць біць напоўніцу. Перыяд будзе цалкам заняты любоўнымі перажываннямі. Дазвольце сабе акунуцца ў гэтыя ўражанні.


**ВАДАЛЕЙ.** Той рэдкі выпадак, калі для найлепшага рашэння будзе шкодна думаць доўга. Давярайце інтуіцыі.


**РЫБЫ.** Звярніце ўвагу на стомленасць. Абавязкова пакіньце час на тое, каб не рабіць літаральна нічога. Гэта тое, што вам цяпер неабходна.

## СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 7 | | | 4 | 6 | | 1 | |
| | 1 | 6 | | | 8 | 9 | | |
| | 2 | | | | | 5 | | 6 |
| | | 7 | 3 | | | | 8 | 1 |
| 1 | | 2 | 6 | | | 3 | | |
| 9 | 4 | | | | | 2 | | |
| | 6 | 4 | | 8 | | | | |
| | | | 7 | | 5 | | | |
| | 9 | | | | 3 | | 2 | |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3x3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.

Рэгіянальная газета. Rh.by





## Чытайце праз тыдзень:

- У грамадстве часта мяркуюць, што пенсіянеры ў Беларусі маюць ці не самыя нізкія даходы ў параўнанні з іншымі катэгорыямі грамадства. Мы звярнуліся да сацыялагічных даследаванняў і да рэальных людзей і высветлілі, ці так гэта.

## 2 лістапада, субота

**Вецер:** паўднёвы, 7 м/с

| Горад | Ноччу | Днём | Воблачнасць |
|---|---|---|---|
| Астравец | +1 | +5 | Значная воблачнасць |
| Мядзел | +2 | +5 | Значная воблачнасць |
| Смаргонь | +1 | +5 | Значная воблачнасць |
| Вілейка | +2 | +5 | Значная воблачнасць |
| Ашмяны | 0 | +4 | Значная воблачнасць |
| Маладзечна | +1 | +5 | Хмарна |
| Валожын | 0 | +4 | Значная воблачнасць |

Усход 8.15
Захад 17.36
Даўжыня дня 9.21

Усход 14:07
Захад 21:35
Месяц расце

### ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я. ВІЛЕЙКА

Мінімальная тэмпература -10,4°С у 1979 годзе
Максімальная тэмпература +15,5°С у 1968 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 14 мм у 2017 годзе

Паводле meteoinfo.by.



## Хавайся ад восеньскай дэпрэсіі з «Рэгіянальнай газетай»!

### Падпісацца на «РГ» можна:

✓ **праз сайт «Белпошты»**

Рэгіструемся на сайце. Заходзім у акно інтэрнэт-плацяжоў, выбіраем «Афармленне падпіскі на друкаваныя сродкі масавай інфармацыі», выбіраем «Алфавітны». Выбіраем тып падпіскі (індывідуальная ці ведамасная).

Ціснем літару «Р», справа гартаем старонкі, назначаныя сінім колерам. Пад індэксам 632122 – «Рэгіянальная газета»

✓ **на пошце**
✓ **праз паштальёна**
✓ **праз плацежна-даведачны тэрмінал**

Цана **індывідуальнай падпіскі:**
- на месяц – 4 рублі 50 капеек;

Цана **ведамаснай падпіскі:**
- на месяц – 13 рублёў 50 капеек;

Вы можаце скарыстацца **скідкай за дастаўку**, калі самі будзеце забіраць газету або ў абаненцкай скрыні, або атрымліваць да запатрабавання.

**ПАДПІСНЫ ІНДЭКС:** *63212 (індывідуальная)*
*632122 (ведамасная падпіска).*

ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

## Ці патрэбныя беларусам выхадныя 31 снежня і 2 студзеня?

Беларусы на сайце petitions.by размясцілі петыцыю, дзе звяртаюцца да ўрада з просьбай зрабіць 31 снежня, а таксама 1 і 2 студзеня выхаднымі ў 2019-2020 і ў наступныя гады.

**Наталля Сіmановіч, гандлёвы агент:**
– Лічу, што патрэбныя. 1 студзеня не працую, а 31 снежня працую. Мне трэба выхадныя, бо амаль кожнае свята я працую.

**Юлія Вяль, выпрабавальнік дэталяў і прыбораў:**
– Яшчэ дакладна не ведаю, працую ці не. Лічу, што патрэбныя, бо хочацца, каб быў час падрыхтавацца да Новага года. У мяне малое дзіця, хочацца яму зрабіць свята. А потым трэба адпачыць ад свята, выспацца, а то цяжка не спаць ноччу і яшчэ раніцай ісці працаваць.

**Ягор Вярбоўскі, аўтаэлектрык:**
– Патрэбныя выхадныя. Таму што гэтыя працоўныя дні нерэнтабельныя. Людзей мала, больш марнуеш грошы на камунальных паслугах, чым зарабляеш. Лепш адпачыць, чым у мінус працаваць. Сам не працую ў гэтыя дні.

**Алена Палонская, прадавец-кансультант:**
– На маю думку, 31 снежня можна зрабіць працоўны дзень скарочаным, а 1 студзеня павінны быць адназначна выхадны.

**Кацярына Вяршыцкая, беспрацоўная:**
– Асабіста для нашай сям'і няма розніцы, бо я не працую, у мужа таксама графік ненармаваны. Але, думаю, калі б працавала, то натуральна галасавала б за выхадныя.

**Вольга Траццяк, беспрацоўная:**
– 1 студзеня дакладна трэба рабіць выхадным. Усе адзначаюць Новы год бліжэй да 12-й ночы, адпаведна раніцай цяжка ўстаць на працу.

**Ксенія Гулевіч, студэнтка:**
– Я лічу, што людзям патрэбны тайм-аўт. Вялікая частка насельніцтва працуе па рэжыме 5/2, не менш і ў выхадныя. Чалавек не робат, адпачываць трэба.

**Падрыхтавала Настасся УТКІНА.**


Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 4100 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№44 (1279) 1.11.2019. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня ТАА «РоллПрынт», 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія №02330/484 ад 16.02.2018 г.
Зак. 1775. Падпісана ў друк у 9.00 31.10.2019.
**Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.**




Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.**
Тэл.: **(80176) 53-78-04** (рэклама, факс), **53-78-05** (дырэкцыя, загадчык аддзела інфармацыі), **53-78-06** (журналісты), **(8029) 573-28-47, 676-84-20.**
E-mail: **reklama@rh.by, regionnews@rh.by.** Web: **http://rh.by, рг.бел.**
Разліковы рахунак BY06BELB30121640300040226000 у ААТ «Банк БелВЭБ» аддзяленне ў Маладзечне, BELBBY2X, атрымальнік ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета», УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.